Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 15 490.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Аўторак, 10 сакавіка 1998 г. | № 23 | Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

# Што думае апазіцыя

Мы папрасілі прадстаўнікоў апазіцыі пракаментаваць заяву А.Лукашэнкі наконт таго, што ніякіх выбараў у 1999 годзе не будзе. Большасць апытаных намі палітыкаў скептычна паставілася да словаў прэзідэнта. «*Лукашэнка здрадзіў Канстытуцыі 1994 г., гэтак жа лёгка ён здрадзіць і сваёй канстытуцыі*», — заўважыў **Сямён Шарэцкі**. Спікер ВС 13-га склікання заявіў, што па законе выбары павінны прайсці ўжо праз год і «*Вярхоўны Савет будзе на гэтым настойваць*».

З тым, што заява Лукашэнкі яшчэ нічога не азначае, згодзен і **Лявон Баршчэўскі**. Кіраўнік БНФ упэўнены, што беларускі прэзідэнт у чарговы раз хітруе. «*Лукашэнка памятае, як наменклатура здала Кебіча, і баіцца, што гэтак жа абыдуцца і з ім*», — лічыць Баршчэўскі. Спасылаючыся на крыніцы ў прэзідэнцкім асяроддзі, Баршчэўскі кажа, што Лукашэнка нібыта задумаў правесці прэзідэнцкія выбары разам з парламенцкімі ўсё ж у 1999 годзе. Прычым адначасова ён, быццам бы, хоча абраць і дэпутатаў у аб'яднаны расійска-беларускі парламент. Заява ў Гродне, на думку Баршчэўскага, зроблена з мэтаю выпрабаваць настроі як у грамадстве, так і ў прэзідэнцкім асяроддзі. Больш істотным Лявон Баршчэўскі лічыць не столькі заяву Лукашэнкі, колькі яе тон. Кіраўнік БНФ пачуў у голасе Лукашэнкі ноткі боязі. «*Было бачна, што ён вельмі баіцца аказацца без падтрымкі выбаршчыкаў, бо адчувае, як гэтая падтрымка на вачах знікае*», — кажа Лявон Баршчэўскі.

Якой будзе пазіцыя Расіі? Ці ўваходзіць у яе інтарэсы адтэрміноўка прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі? Лявон Баршчэўскі ўпэўнены, што Крэмль даруе свайму саюзніку любыя «выбрыкі», толькі б той забяспечыў «заходні калідор». Але Крамлю прыйдзецца весці складаныя гульні, каб нейтралізаваць памкненні Лукашэнкі ўвайсці на расійскі прастол.

«*Расійская эліта ніколі не дапусціць прыходу Лукашэнкі да ўлады, там пойдуць нават на выключныя меры, калі такая небяспека ўзнікне*», — упэўнены **Генадзь Карпенка**. Сярод мераў не выключаюцца і больш цывілізаваныя. «*Можа атрымацца так, што менш амбіцыйны, але не менш адданы Маскве чалавек прыйдзе да ўлады ў Беларусі ў выніку дварцовага перавароту*», — кажа **Станіслаў Багданкевіч**. Менавіта на выпадак такога сцэнару, як ён лічыць, неабходна захаваць легітымным Вярхоўны Савет 13-га склікання, які прызнаецца ва ўсім свеце. Бо толькі гэта выратуе Беларусь ад чарговай марыянеткі.

Што можа зрабіць апазіцыя, каб дамагчыся выбараў у адпаведнасці з Канстытуцыяй 1994 года? Станіслаў Багданкевіч прапануе рыхтавацца да выбараў 1999 года ўжо зараз. Вызначыцца з адзіным кандыдатам, шукаць прыстойных людзей у выбарчыя камісіі, тлумачыць народу свае мэты. Канешне, на выбары можна пайсці толькі пры ўмове іх дэмакратычнасці. Разлічваць на дэмакратычныя выбары не даводзіцца, але заняць адзіную ўзгодненую пазіцыю адносна іх правядзення неабходна, упэўнены Лявон Баршчэўскі. За адзінства і спікер Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

*А.Лукашэнка:*

## Ніякіх выбараў!

**Аляксандр Лукашэнка выказаўся супраць правядзення прэзідэнцкіх выбараў у 1999 годзе, як таго патрабуе Канстытуцыя 1994 года.**

**Выступаючы 5 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў Гродне, А.Лукашэнка заявіў, у прыватнасці: *«Апазіцыя сёння вядзе размову наконт выбараў прэзідэнта ў 1999 годзе. Ну хіба гэта праблема? Вы думаеце, я баюся гэтых выбараў? Ды падтрымалі б мяне людзі на гэтых выбарах. Але справа не ў гэтым. Небяспека заключаецца не ў саміх выбарах, а ў тым, што, пайшоўшы на гэтыя выбары, я перакрэсліваю канстытуцыю, прынятую на рэферэндуме, па якой выбары павінны адбыцца ў 2001 годзе. І потым, вы ведаеце, што такое выбары. Гэта хаос, неразбярыха. Варта толькі аб'явіць за год, і пайшло: жадаючых стаць прэзідэнтам — мора, пайшлі па вёсках народ бударажыць. Не тое, што не пасеем, не тое, што стратэгію, якую выпрацавалі сёння, не ажыццявім, — зноў атрымаецца хаос, і мы пагрузімся ў вір перадвыбарных баталій».***

# Вяртанне БНР

***Зянон ПАЗЬНЯК, старшыня БНФ «Адраджэнне»***



Мне здаецца, што беларускае грамадства знаходзіцца нібыта на раздарожжы. Не праглядаецца выразнай альтэрнатывы дыктатуры, незразумелыя механізмы пераменаў і вяртання ў нармальны стан. Не бачыцца сілы, якая б змагла рэальна змяніць сітуацыю. Ад усяго гэтага плодзіцца нявер'е ў перамены і пазітыўны зыход.

Аднак я мяркую, што сітуацыя, якая ўтварылася ў Беларусі, ёсць перш за ўсё сітуацыя нявыкарыстаных магчымасцяў. Патэнцыял нашых палітычных сілаў яшчэ поўнасцю не вычарпаны. Не рэалізаваны патэнцыял беларускай ідэі, не прыведзена ў рух грамадства.

Прамаскоўскі рэжым і дыктатура, што ўсталяваная ў Беларусі, небяспечная не толькі грубым парушэннем правоў чалавека, свабоды слова, грамадзянскіх свабодаў, але перш за ўсё тым, што пазбаўляе беларусаў гістарычнай перспектывы нацыянальнага існавання.

Цяпер, гэтак жа, як у час вайны, усе беларусы ва ўсім свеце павінны ўдзельнічаць у змаганні за Беларусь. Тое, што адбываецца ў Беларусі ў канцы XX стагоддзя, ёсць беларуская трагедыя і беларуская праблема, якая ўсё больш і больш робіцца фактарам сусветнай геапалітыкі.

### Цяжкі год

Чакаецца цяжкі год. Над Беларуссю зноў павісае небяспека анексіі. У Расіі намецілася аб'яднанне сілаў руска-беларускай «інтэграцыі». Расійскія спецслужбы і ВПК умацавалі свой уплыў на ўладу ў Расіі. На дарозе Лукашэнкі ў Крэмль паменела перашкодаў. У канцы 1997 г. ён адкрыта даў зразумець пра свае намеры стаць прэзідэнтам у Маскве. Паколькі на такія выказванні дадзена згода, то варта чакаць новых інтэграцыйных ініцыятываў.

Расійцы змянілі тактыку. Цяпер нічога загадзя не гаворыцца. Рыхтуюцца пагадненні з Лукашэнкам, і грамадства ставяць перад фактам. Гэтак 23 студзеня стала вядома аб заключэнні ў Маскве беларуска-расійскага ваенна-палітычнага саюза — акцыі незаконнай з пазіцыі беларускага права.

Інтэграцыйныя ініцыятывы патрэбныя і Лукашэнку, і Маскве. Тое, што яны пачнуць зноў разыгрывацца, можна не сумнявацца. Гэтак жа, як і ў тым, што Масква пастараецца рэалізаваць іх хутка і нечакана, каб пазбегнуць хвалі беларускага грамадскага супраціўлення напярэдадні чарговых пактаў. Супраціўленне апасля — папераджальных вынікаў ужо мець не будзе. Безумоўна, што вызвольны рух павінен рэзка ўзмацніць кампанію па адстаўцы Лукашэнкі. Яна павінна стаць галоўнай тэмай і грамадскім фонам чарговай «інтэграцыі».

### Яшчэ раз пра імпічмент

Крыху больш як праз год (у ліпені 1999) заканчваецца прэзідэнцкая кадэнцыя Лукашэнкі. Паўстае пытанне аб канкрэтнай палітычнай і арганізацыйнай альтэрнатыве дыктатуры, аб механізме замены ўлады, аб канцэпцыі барацьбы з рэжымам.

Раней, у 1995 г., так званая «антылукашэнкаўская апазіцыя» стваралася Народным Фронтам на прынцыпах непрадвырашанасці. У той час мне давялося распачаць спатканні і кансультацыі з ідэалагічнымі апанентамі БНФ — С.Шарэцкім, С.Багданкевічам, С.Калякіным. Прадметам і мэтай апазіцыі быў імпічмент. Што станецца пасля імпічменту, мы не абгаворвалі, бо ўдзельнікі апазіцыі — людзі розных палітычных перакананняў і інтарэсаў. Галоўнае было — дасягнуць імпічменту.

Імпічмент быў правалены ў выніку здрады старшыні Канстытуцыйнага суда В.Ціхіні і кіраўніцтва Вярхоўнага Савета — С.Шарэцкага, Г.Карпенкі, П.Краўчанкі і інш. Замест імпічменту адбыўся антыканстытуцыйны пераварот Лукашэнкі, у якім усе названыя асобы фактычна прынялі ўдзел. І нават пасля падпісання «здрады» пайшлі на агульны фуршэт з Лукашэнкам, Чарнамырдзіным, Селязнёвым, Строевым запіваць сумесна зробленую «справу» (В.Ціхіню, як ён паведаміў у друку, запомніліся нават тосты). Цяпер гэтыя спадары працягваюць хадзіць у «апазіцыі» і нават папрызначалі сябе ў лідэры нацыі.

Кіраўніцтва Вярхоўнага Савета нясе перш за ўсё палітычную адказнасць за здачу і правал агульнай справы. Старшыня ж Канстытуцыйнага суда парушыў Канстытуцыю, Закон аб Канстытуцыйным судзе і іншыя законы, уступіўшы ў перамовы (а фактычна — у змову) з Лукашэнкам пасля атрымання заявы 73 дэпутатаў аб узбуджэнні справы пра імпічмент прэзідэнта, і таму падлягае юрыдычнай адказнасці па закону.

*(Працяг на стар. 2)*

# Пупейка стаў выязным

*Бізнесмен дае сенсацыйныя інтэрв'ю*

**Аляксандр Пупейка цяпер можа бесперашкодна выязджаць з Польшчы да сваёй сям'і ў Германію. У мінулую пятніцу польская пракуратура анулявала падпіску аб нявыездзе беларускага бізнесмена, хаця суд яшчэ не вынес канчатковага рашэння ў справе яго выдачы беларускім уладам.**

Закрытае судовае паседжанне ў пятніцу працягвалася ўсяго паўгадзіны. Пасля суддзя сам выказаў шкадаванне, што не запрасіў у залу суда шматлікіх журналістаў, якія чакалі вердыкту пад дзвярыма. Па словах суддзі, у справе «Рэспубліка Беларусь супраць Аляксандра Пупейкі» яўна не хапае доказаў віны беларускага бізнесмена. Чарговае судовае паседжанне прызначанае на 14 траўня.

Супрацоўнікі беларускага пасольства — генерал Рухлядзеў, адказны за кантакты з польскімі праваахоўнымі органамі, і прэс-сакратар Вірко — пазбягалі ўсялякіх кантактаў з прэсай. Сам Пупейка ахвотна кантактаваў з журналістамі.

«*Я рыхтую для прэсы спецыяльны ліст, у якім падрабязна раскажу пра сапраўдныя прычыны майго пераследу*, — сказаў Аляксандр Пупейка. — *Там будуць таксама некаторыя таямніцы рэжыму Лукашэнкі*».

Дарэчы, не толькі Польшча занепакоеная лёсам беларуса. Стала вядома, што справа Пупейкі фігуравала ў тыднёвым плане Папы Рымскага ў сувязі з маніторынгам правоў чалавека ў свеце.

— Я праваслаўны, — сказаў Пупейка, — але ніводзін дзеяч праваслаўнай царквы нават не праявіў заклапочанасці станам правоў чалавека ў Беларусі, не кажучы ўжо аб парушэнні правоў канкрэтнай асобы.

У польскай прэсе гэтымі днямі шмат пішуць пра справу Пупейкі. Аўтарытэтная газета ŻYCIE апублікавала інтэрв'ю з ім, фрагмент якога мы цытуем ніжэй.

**Карэспандэнт: — Што б здарылася, калі б Вас выдалі беларускім уладам?**

**Пупейка:** — Дапускаю, што мяне маглі б забіць у турме на працягу двух тыдняў. Так здарылася, што я валодаю каласальнай колькасцю інфармацыі і дакументаў, якія ўказваюць на скарумпаванасць Лукашэнкі і ягонага бліжэйшага атачэння.

**Кар.: — Вы можаце прывесці канкрэтны прыклад?**

**Пупейка:** — Я ведаю, дзе Лукашэнка трымае свае грошы, атрыманыя ад нелегальнай эканамічнай дзейнасці. У Дзюсельдорфе і Кёльне знаходзяцца грошы, выручаныя ад продажу алкаголю і цыгарэт у Расіі. Сродкі ад продажу зброі перакачваліся ў іншыя месцы. На замежных рахунках беларускага прэзідэнта знаходзяцца некалькі сотняў мільёнаў долараў. Не меншыя сумы трымаюцца ў Беларусі «на ўсялякі выпадак». Гэта асабісты фонд прэзідэнта, ён складае каля 500 мільёнаў долараў. Існуюць рахункі і на выпадак уцёкаў Лукашэнкі з краіны, але цяпер ён рыхтуе сабе месца ў Маскве...



На здымку: Аляксандр Пупейка ў варшаўскім офісе.

**Кар.: — Вы сказалі, што не пражылі б у Беларусі двух тыдняў. Чаму?**

**Пупейка:** — Пакуль я буду жыць, то буду для іх небяспечны, нават знаходзячыся ў турме. Бяспечным буду толькі як нябожчык. Хутчэй за ўсё «скончу жыццё самагубствам», як «зрабіў» гэта палкоўнік КДБ з Магілёва Міхаіл Ткачоў, які «нібыта павесіўся на нарах» у сваёй камеры. Акрамя Ткачова, у камеры знаходзілася больш за 10 чалавек, аднак «ніхто нічога не бачыў і не чуў». Ткачоў шмат ведаў аб махінацыях кіраўніцтва Магілёўскай вобласці. Я вельмі добра разумею, што цяпер вырашаецца пытанне майго жыцця альбо смерці.

**Янка ЧУРЫЛОВІЧ**

### Візы

Больш за 2 мільёны долараў заплацілі ў 1997 годзе грамадзяне Беларусі за візы ў Літоўскую Рэспубліку.

### Пікеты

10 сакавіка пікет на Юбілейнай плошчы з 15.00 да 17.00 і 12 сакавіка з 17.00 да 19.00 каля мікрарынку «Серабранка». Аб'яднаная грамадзянская партыя праводзіць пікеты ў падтрымку грамадскай ініцыятывы «Хартыя 97». Акрамя подпісаў у падтрымку «Хартыі», удзельнікі пікетаў будуць публічна патрабаваць вызвалення дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га склікання, вядомага бізнесмена Андрэя Клімава.

### Дыпламатыя

Сёлета ўрад Беларусі плануе адчыніць пасольствы ў краінах Сярэдняй Азіі, а таксама гандлёва-эканамічныя прадстаўніцтвы ў федэральных землях ФРГ і пасобных правінцыях Кітая. А паслязаўтра ў Ханой адбывае Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Сацыялістычнай Рэспубліцы В'етнам Алег Чэкункоў. Дагэтуль Беларусь мела ў В'етнаме толькі Гандлёвае прадстаўніцтва.

### Пражэкты

Па словах міністра замежных эканамічных сувязяў М.Марыніча, запланаваны на 1997 год прыток прамых інвестыцыяў у памеры 325 мільёнаў долараў забяспечаны не быў. Аднак сёлета ўрад спадзяецца на 350 мільёнаў інвестыцыйных долараў.

### Сустрэчы

Запланаваная на канец сакавіка сустрэча міністраў замежных справаў Рэспублікі Беларусь і Латвійскай Рэспублікі адбудзецца ў Браславе або Дзвінску (Даўгаўпілсе), паведаміў консул Латвіі ў Віцебску Арманд Крузэ.

### Дамовы

На паседжанні Савета кіраўнікоў урадаў СНД у Маскве сярод іншых падпісаная Канвенцыя аб перадачы асуджаных да пазбаўлення волі для далейшага адбывання пакарання ў тую дзяржаву СНД, грамадзянінам якой з'яўляецца злачынца.

# Вяртанне БНР

*(Пачатак на стар. 1)*

Пасля перавароту і правалу імпічменту створаны грунт для існавання агульнай «антылукашэнкаўскай апазіцыі» розных сілаў, бо знік прадмет апазіцыі — юрыдычны, прававы, безадносны да палітыкі, але абавязковы для ўсіх прынцып, якім было законнае палажэнне аб імпічменце, заснаванае на Канстытуцыі і волі парламента. Перад удзельнікамі былой «антылукашэнкаўскай апазіцыі» засталіся практычна толькі палітычныя мэты барацьбы з дыктатурай, якая сумесна з Расіяй прыступіла да рэальнай анексіі Беларусі і знішчэння суверэнітэту краіны.

Менавіта ў дачыненні да Расіі, да расійскай палітыкі адносна Беларусі (а не да Лукашэнкі) сталі крытэрыем здрады кіраўніцтва Вярхоўнага Савета і старшыні Канстытуцыйнага суда. Менавіта па гэтай лініі распалася (дакладней, вярнулася на зыходныя пазіцыі) часовая, штучна створаная «антылукашэнкаўская апазіцыя».

### Адносіны да Вярхоўнага Савета

Пасля перавароту ў лістападзе 1996 г. мне, маім калегам і ўсяму Народнаму Фронту прыйшлося прымаць вельмі нялёгкае і рызыкоўнае рашэнне. Негатыўныя вынікі гэтай рызыкі ўсё больш і больш нагадваюць пра сябе. Гэтае рашэнне — адносіны да Вярхоўнага Савета, які здрадзіў і праваліў усю справу агульнай апазіцыі. Мы падтрымалі С.Шарэцкага пасля правалу.

Аднак зраблю невялікі экскурс у нядаўняе мінулае. У лістападаўскія дні 1996 года мне прыйшлося (падкрэсліваю, прыйшлося, бо дзеянні кіраўніцтва Вярхоўнага Савета былі такія, што іншага выйсця не было) адправіць факсам некалькі тэрміновых лістоў С.Шарэцкаму з прапановамі, што канкрэтна трэба зрабіць. На жаль, з гэтых прапановаў амаль нічога не было скарыстана. Цяпер спадарам з кіраўніцтва Вярхоўнага Савета не трэба казаць, што яны, маўляў, паверылі Маскве. Наконт Масквы яны былі папярэджаныя — і неаднойчы. Але гэтыя спадары не толькі не прыслухаліся да прапановаў, але нават выйшлі на плошчу і пачалі ўгаворваць людзей (сабраных, дарэчы, Народным Фронтам па майму настойліваму патрабаванню) — разысціся. Маўляў, разыходзьцеся, усё будзе добра. Гэтае «добра» скончылася агульным фуршэтам з Лукашэнкам і маскоўскімі гасцямі.

У тры гадзіны ночы ньюйоркскага часу з 21 на 22 лістапада я атрымаў падрабязную інфармацыю з Мінска і адразу выехаў у Вашынгтон, дзе павінен быў чытаць даклад у Карнэгі-Фондзе пра становішча ў Беларусі. Прысутнічалі прадстаўнікі Кангрэса, Дзярждэпартамента, амбасадаў, супрацоўнікі дыпламатычных місіяў, журналісты. Перада мной ужо знаходзілася яшчэ не надрукаваная заява пэўнай амерыканскай палітычнай структуры аб падзеях у Мінску, дзе ўхвалялася «міратворчая місія» Расіі, асабіста Чарнамырдзіна, казалася аб станоўчым вырашэнні крызісу ў Мінску пры канструктыўнай дапамозе Масквы, пісалася аб перспектывах беларуска-расійскіх дачыненняў і г.д. Усё стала зразумела. У тым ліку — і задаволены твар расійскага пасла. Праз пару гадзінаў гэтая заява пойдзе ў друк, і потым змяніць ацэнкі будзе вельмі цяжка (перш за ўсё для самой структуры). Я адклаў убок тэкст свайго даклада і сказаў, што буду гаварыць пра падзеі, якія адбыліся ноччу ў Мінску. Пасля выступу — жорсткая пікіроўка з расійцамі, пытанні, дыскусія і вызначэнні. Паспешная інфармацыя ў друк не пайшла. Замест яе было іншае паведамленне і іншыя ацэнкі.

У гэты ж дзень я меў выступ на *CNN*, а назаўтра паслаў ліст С.Шарэцкаму пра перспектывы Вярхоўнага Савета і другі ліст у сядзібу БНФ.

Сітуацыя склалася няпростая. Для выратавання палітычнай перспектывы Фронту як вызвольнага руху, — здраднікаў трэба было адкінуць і паставіць на іх крыж. З другога боку, стала зразумела, што Вярхоўны Савет і Канстытуцыйны суд павінны былі выглядаць перад Захадам ахвярамі, а не здраднікамі і саўдзельнікамі ў перавароце. Гэта павялічвала магчымасці падтрымкі Захадам беларускіх змагароў з дыктатурай. Прагматычная пазіцыя падмацоўвалася спадзяваннем, што ашуканыя, адрынутыя дэпутаты Вярхоўнага Савета набылі дастаткова вопыту, каб асэнсаваць і зразумець, што такое Расія і ўся яе імперская палітыка, што такое вызвольны рух, з кім і якім чынам трэба супрацоўнічаць, а з кім — змагацца. На жаль, вельмі мала хто гэта зразумеў. Спадзяванні тут былі памылковыя.

Апазіцыйная група Вярхоўнага Савета, як і трэба было чакаць, стала своеасаблівым каталізатарам міжнародных дачыненняў адносна Беларусі і рэжыму Лукашэнкі. Захаду было прасцей і зразумела ісці па ім жа пратаптаных дарожках. Каталізуючая роля была завершаная крыху больш як праз паўгода. Фактычна на гэтым скончылася станоўчая палітычная функцыя апазіцыйнай групы Вярхоўнага Савета і патрэба ў яе існаванні.

Вярхоўны Савет 12-га склікання (пры ўсіх адмоўных дзеяннях ягонай дэпутацкай большасці — блакіроўцы падрыхтаваных апазіцыяй БНФ рынкавых законапраектаў, уцягванні Беларусі ў арбіту расійскіх інтарэсаў, увядзенні прэзідэнцтва) — усё ж абвясціў незалежнасць, прыняў у якасці дзяржаўных бела-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня».

Вярхоўны Савет 13-га склікання ад пачатку сваёй дзейнасці практычна не зрабіў нічога станоўчага для беларускай нацыі ні ў палітычным, ні ў заканадаўчым сэнсе. Ён зацвердзіў сфальсіфікаваныя вынікі жахлівага антызаконнага рэферэндуму 1995 г., «легітымізаваўшы» лукашэнкаўскую сімволіку, і амаль аднагалосна ратыфікаваў незаконную ельцынска-лукашэнкаўскую дамову аб «саюзе» Беларусі з Расіяй ад 2 красавіка 1996 года, якой быў распачаты працэс анексіі Беларусі.

Тым, хто апынуўся потым за бартом у ролі «апазіцыі», у фокусе міжнароднай увагі, нават у галаву не прыйшло дэнансаваць зацверджанне рэферэндуму і ратыфікацыю, хоць бы дзеля маральна-палітычнага ўчынку. Яны не засароміліся, не адмовіліся ад сваіх грубых асуджэнняў масавага супраціўлення Народнага Фронту вясной 1996 года («Чарнобыльскі шлях» і інш.). Тады ім нагадалі пра гэта. Тры месяцы таму ў «Народнай волі» быў надрукаваны адкрыты ліст Сяргея Навумчыка да старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага, дзе гаварылася пра магчымасць маральна выправіць памылкі — вярнуць бел-чырвона-белы сцяг, «Пагоню», дзяржаўныя гарантыі беларускай мовы. Выніку не было і няма ніякага, таму што тут не выпадковасць, тут — пазіцыя.

Абапіраючыся на падстаўленыя плечы БНФ, атрымаўшы незаслужаную падтрымку з Захаду, увайшоўшы там у адчыненыя дзверы, ніхто з іх не задумаўся, чаму яны адчыніліся і як трэба паводзіць сябе з тымі, хто іх падтрымлівае. Замест адстойвання нацыянальных інтарэсаў — яны зноў па старой «усесаюзнай» звычцы адзін за адным накіраваліся ў Маскву шукаць крамлёўскага гаспадара, які б іх пашкадаваў і пакараў іхняга крыўдзіцеля Лукашэнку.

*(Працяг артыкула ў наступным нумары)*

# З кожным годам болей піва



**Беларускае піва карыстаецца ўсё большай папулярнасцю ў беларусаў. За мінулы год беларусы выпілі піва амаль на 10% больш, чым у 1996 г. У 1997 годзе прыпадала каля 19 літраў выпітага піва на чалавека. Прычым сталі піць больш не новых экзатычных марак замежнай вытворчасці, а беларускага піва: нашыя бровары павялічылі выраб прадукцыі амаль на 20%.**

### Развітанне з *Tuborg*

Яшчэ не так даўно беларускія півавары страшылі саміх сябе: прыйдзе на рынак імпартнае піва — і нашыя заводы не вытрымаюць канкурэнцыі з якім-небудзь гігантам, накшталт *Holsten*. Але гэтага не адбылося. Наадварот, за апошні год легальны імпарт піва (бо ёсць яшчэ і «чорны») скараціўся больш як на 80%. У агульнай масе выпітага беларусамі піва доля замежных марак не дасягнула і 1% (для параўнання яшчэ ў 1996 г. больш за 6% прыпадала на імпарт). Змены адбыліся і ў структуры імпарту: раней больш за палову імпартавалася з Галандыі, цяпер — з Нямеччыны.

У чым прычына? Канечне, беларускія бровары значна пашырылі асартымент і стараюцца дагадзіць пакупніку. Аднак і кошты імпартнага піва моцна ўзраслі, што знізіла попыт. Дзяржава зрабіла легальны імпарт піва вельмі праблематычным — тут і цяжкасці з канвертацыяй валюты, і бюракратычныя складанасці сертыфікацыі. У выніку імпартаваць піва (зрэшты, як і іншыя тавары) стала цяжэй і даражэй. І, напрыклад, марка *Tuborg* фактычна знікла з рынку.

Адначасова пачала расці кантрабанда, у асноўным з Расіі і Балтыі. Кантрабандныя *Holsten* і *Bavaria* сталі распаўсюджанай з'явай на беларускіх прылаўках. А частка гэтага тавару папросту фальшывая, выробленая падпольна.

І ўсё ж на рынку яшчэ з'яўляюцца новыя маркі піва, накшталт мексіканскіх *Sol* і *Corona*. Яны каштуюць дорага ў параўнанні з іншым імпартным півам, але іх асаблівы смак і проста мода забяспечваюць пэўны попыт.

### Здаровая канкурэнцыя

Бясспрэчны факт: беларускія піваварыы прыклалі шмат намаганняў. Значна вырасла колькасць гатункаў айчыннага піва, пашырылася рэкламная кампанія беларускіх заводаў (перш за ўсё «Крыніцы»). Усе бровары (вытворцаў піва ў Беларусі больш за 30) павялічылі выпуск. Несумненны лідэр — мінская «Крыніца», якая выробляе больш за чвэрць усяго беларускага піва. Другое і трэцяе месцы займаюць вядомыя ААТ «Рэчыцапіва» і ЗАТ «Лідскі піўзавод». Дарэчы, толькі Лідскі бровар правёў сур'ёзную маркетынгавую кампанію і стабільна выйшаў за межы сваёй вобласці, змог зрабіць сваю прадукцыю вельмі папулярнай у Мінску і іншых гарадах. На думку спецыялістаў, лідчукі забяспечваюць да 15% мінскага рынку піва і паспяхова канкурыруюць з «Крыніцай» і «Аліварыяй».

Буйныя вытворцы шмат піва адпраўляюць на экспарт, што жыццёва неабходна для беларускіх заводаў. Рэч у тым, што сыравіну (хмель, солад і нават ячмень адмысловых гатункаў) даводзіцца купляць за мяжой. У выніку экспарт беларускага піва складае даволі істотную лічбу — 3,6 млн. дэкалітраў і пастаянна ўзрастае, у 1997 г. ён вырас больш як на 30% (4,9 млн. дэкалітраў). Пры гэтым амаль увесь экспарт ідзе ў Расію.

Аднак апошнім часам беларускія півавары хваляюцца за пазіцыі на расійскім рынку. Расія падтрымлівае сваіх вытворцаў за кошт паніжанага акцызу: акцыз на імпартнае піва складае 40%, на расійскае — толькі 15%.

### Перспектывы

Беларускія вытворцы павялічваюць выпуск ячменнага напою, але перспектывы не вельмі аптымістычныя. Прадпрыемствы не маюць дастаткова грошай на мадэрнізацыю вытворчасці. Асабліва гэтая праблема датычыць мінскай «Аліварыі»; спецыялісты сцвярджаюць, што тут абсталяванне амартызаванае амаль на 90%.

Да таго ж вытворцы скардзяцца на абмежаванасць плацежаздольнага попыту на сваю прадукцыю. Калі б беларусы былі багацейшыя, маглі б з'явіцца шматлікія маленькія бровары з арыгінальнымі «эксклюзіўнымі» гатункамі піва.

І ўсё ж прагрэс павінен быць, бо сярод беларусаў і беларусак (якія, дарэчы, аддаюць перавагу цёмнаму піву) расце папулярнасць напою. Таму ў 1998 годзе варта чакаць далейшага росту вытворчасці і знаёмства з новымі маркамі піва — беларуская заводы пачынаюць усё мацней канкураваць паміж сабой на рынку.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Забастоўка дапамагае

**Барацьба магілёўскіх прадпрымальнікаў за свае правы пачынае прыносіць вынікі.**

Нагадаем, што падчас нядаўніх выступленняў гандляры з магілёўскіх рынкаў патрабавалі, каб кантроль за якасцю тавараў праводзілі на месцы, а не прымушалі ехаць у Мінск. Пад ціскам прадпрымальніцкіх пратэстаў абласныя ўлады выдаткавалі належныя сумы (каля 300 мільёнаў рублёў), і мясцовыя службы здолеюць рабіць кантроль на месцы.

А тым часам усё новыя прадпрымальніцкія колы пачынаюць адстойваць свае правы шляхам публічнага пратэсту. 70 гандляроў з Цэнтральнага харчовага рынку Магілёва адмовіліся весці гандаль, калі адміністрацыя рынку ўзняла кошты за свае паслугі да 5 мільёнаў рублёў у месяц.

Па той жа прычыне перад жаночым святам паўсотні гандляроў спынілі продаж кветак.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Літва – гатовая

**На мінулым тыдні прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус сустрэўся з паслом Літвы ў Беларусі Віктарасам Баўблісам і паслом Літвы ва Украіне Вітаўтасам Плячкайцісам. Пасол В.Баўбліс праінфармаваў прэзідэнта Адамкуса пра падрыхтоўку дамовы з Беларуссю аб рэадмісіі (вяртанне нелегальных мігрантаў).**

Нагадаем, што гэты дакумент быў гатовы падпісаць яшчэ А.Бразаўскас, былы прэзідэнт Літвы. Але падпісанне, якое магло адбыцца яшчэ ў 1997 годзе на летнім саміце ў Вільні, не адбылося па прычыне «непадрыхтаванасці беларускага боку»; хоць перад той сустрэчай Лукашэнка гаварыў, што існуе дамоўленасць з прэзідэнтам Літвы пра падпісанне дакумента менавіта падчас саміту.

Прайшло больш як паўгода. Па словах пасла В.Баўбліса, дамова ўжо даўно падрыхтаваная і яе падпісанне залежыць толькі ад волі кіраўнікоў абедзвюх дзяржаваў. В.Адамкус заявіў, што гатовы падпісаць дамову аб рэадмісіі і спадзяецца на такі ж падыход з боку прэзідэнта Беларусі.

**А.ЛАПЦЁНАК,**
*Беларуска-літоўскі інфармацыйны цэнтр*

# Кучма заслужыў узнагароду

**Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма лічыць неабходным умацоўваць супрацоўніцтва з Расіяй, не адмаўляючыся пры гэтым ад стратэгічнага курсу — інтэграцыі ў еўрапейскія структуры.**



*На здымку: прэзідэнт Украіны Леанід Кучма трымае ў руках узнагароду на афіцыйнай цырымоніі 7 сакавіка*

Л.Кучма ўпэўнены, што супрацоўніцтва з Расіяй адлавядае нацыянальным інтарэсам Украіны. У прыватнасці, ён адзначыў сумесныя праекты па вытворчасці самалёта АН-70 і будаўніцтва суднаў на ўкраінскіх заводах. У той жа час, на думку Кучмы, «Украіна не можа мець толькі адзін вектар у знешняй палітыцы» і працягне супрацоўніцтва з *NATO* у рамках падпісанай летам 1997 года Хартыі. На пытанне аб пазіцыі мэра Масквы Юрыя Лужкова, які адстойвае расійскую прыналежнасць Севастопаля, прэзідэнт Кучма заявіў: «Севастопаль — неад'емная частка Украіны. Так было, ёсць і заўсёды будзе».

У суботу, 7 сакавіка Леанід Кучма атрымаў прэстыжную ўзнагароду "Дзяржаўны дзеяч года". Такія ўзнагароды з серыі «Чалавек года» штогод прысуджаюцца на Украіне шэрагам грамадскіх арганізацыяў 30-ці найлепшым палітыкам, бізнесменам, дзеячам культуры і навукі.

*Інтэрфакс*

*Взгляд из Москвы*

# Лукашенко идет по пути своего идеала

**Лев ГИНЦБЕРГ,**
***доктор исторических наук***

Среди историков давно ведутся споры: допустимо ли отождествлять советский режим с фашистским? В последнее время проблема эта из категории умозрительных перешла в практическую плоскость. Актуальной ее сделал Александр Лукашенко, президент Беларуси.

Слишком многое, что сегодня происходит в Беларуси, напоминает Германию 30-х годов. В Беларуси установлена единоличная диктатура. Сформирован карманный парламент, жестоко преследуется инакомыслие. Налицо разгул демагогии, прежде всего со стороны «батьки». Многое в официальной пропаганде взято из арсенала геббельсовского ведомства.

Ясно, что Лукашенко просто не мог не обратиться к фигуре Гитлера, как положительному образу руководителя нации. Президент Беларуси прямо сказал, что фашистской диктатуре в Германии наряду с отрицательными сторонами (таковые он признает) были присущи и положительные. Отметим, что в наши дни в ФРГ, где в первое десятилетие после войны были живы прогитлеровские настроения, говорить о достоинствах Гитлера и созданного им режима не принято. И уж совсем противоестественно утверждать это в Беларуси, народ которой имеет свои счеты с Гитлером и фашизмом: четвертая часть белорусов была уничтожена в годы войны. Но тем не менее события в стране стали развиваться по сценарию, в свое время разыгранному в Германии.

Арест и обвинение журналистов минского отделения ОРТ — яркий пример. Действия Лукашенко разительно походят на гонения на советских журналистов в Германии 1933 года, когда они периодически подвергались арестам и обыскам, а в сентябре того года по личному распоряжению Гитлера были лишены допуска на процесс о поджоге рейхстага. Когда они все-таки прибыли в Лейпциг, где проходил процесс над Георгием Димитровым, то были арестованы. Так фюрер реагировал на правдивые сообщения, которые наши корреспонденты публиковали о положении в фашистской Германии, о тотальном попрании там демократических свобод, о запрещении свободной прессы, терроре против инакомыслящих и т.п.

После решительного протеста советского полпредства арестованные были в тот же день (а не спустя два с половиной месяца, как Павел Шеремет) освобождены. Дискриминация германских властей в отношении советских корреспондентов продолжалась, тогда правительство СССР (надо признать, гораздо более энергично, чем нынешнее) отозвало наших журналистов из Германии и одновременно выдворило немецких из СССР. Гитлер довольно быстро образумился, и спустя месяц конфликт был улажен.

Говоря о сходных ситуациях 1933 и 1997 годов, необходимо иметь в виду одно обстоятельство. Тогда столкновение по вопросу о свободе информации происходило между двумя враждебными друг другу государствами. Причем глава одного из них — Гитлер — не скрывал своих агрессивных замыслов в отношении СССР. Ныне конфликт развернулся между странами, вроде бы находящимися в союзе. Их главы, особенно А.Лукашенко, многократно декларировали свое стремление к максимально тесной интеграции. На деле белорусский лидер использовал ничтожный повод — якобы имевший место переход границы, чтобы довести «дело» до серьезного осложнения отношений между нашими странами.

Но цель, видимо, оправдывает средства: налицо стремление застращать российских журналистов, заставить их отказаться от правдивого освещения положения в Беларуси, а пуще всего — от объективной оценки действий ее президента. Степень ненависти последнего к людям, выполняющим свой профессиональный долг, проявилась в словечке из неполитического лексикона — «жулье», которым Лукашенко окрестил всех, кто трудится на московском телевидении.

После того, как Ельцин проявил твердость и Шеремет был освобожден из заключения под подписку о невыезде, Лукашенко постарался унизить своего закадычного «друга», заявив: дескать, поблажка Шеремету произошла не благодаря прямому настоянию Ельцина, а в результате вмешательства патриарха всея Руси. Самое впечатляющее в этой истории — высказывание Лукашенко относительно разницы возрастов — своего и Ельцина. Себе года он скостил, зато возраст Ельцина увеличил на 14 лет, доведя до 80. О цели подобной манипуляции (учитывая возможные варианты занятия высших постов в союзе России и Беларуси) можно догадаться, а ключ для этого предоставляет мало кому известное высказывание Гитлера. В начале 30-х гг. в Германии президентом был весьма престарелый деятель — фельдмаршал Гинденбург. Гитлер, поигравший ему в 1932 г. на выборах, заявил на одном из митингов: «Президенту Гинденбургу уже 85 лет, мне же — 43 года. Когда мне исполнится 85, господина Гинденбурга уже давно не будет в живых».

Лукашенко — человек весьма велеречивый. Правда, ему пока далеко до Гитлера — демагога, который беззастенчивой ложью и шулерским искусством передергивать факты сумел оболванить практически всю нацию. Но белорусский «батька» — способный ученик, он сумеет превзойти фюрера. И не будем забывать: Гитлер родом из Австрии, а встал во главе Германии. Лукашенко — из Беларуси, а уже заявил о своих притязаниях на пост президента России.

*«Известия» (5.03.98 г.)*

*Украина*

# «Афера века» на трагедии Чернобыля

В Украине разгорается международный скандал. Под предлогом повышения безопасности Чернобыльской АЭС правительственные чиновники «отмыли» полмиллиарда долларов, — так утверждает главный консультант парламентского Комитета по вопросам чернобыльской катастрофы Владимир Усатенко. По его словам, Чернобыль помогает узкому кругу лиц делать большие деньги на трагедии.

27 февраля Европейский банк реконструкции и развития объявил, что прекращает выделять деньги на повышение безопасности Чернобыльской АЭС. Руководство банка заподозрило Украину в «нецелевом использовании денег».

Представитель ЕБРР в Украине Я.Кинах прокомментировал: *«Отказ от финансирования подписанного рамочного соглашения отнюдь не является отказом от помощи Украине в плане повышения ядерной безопасности ЧАЭС. Но нашими сотрудниками были вскрыты факты расходования денег на работы, выполнение которых не окажет существенного влияния на ядерную безопасность станции, а также списывание средств на мероприятия, которые в прошедших годах уже были выполнены»*. То есть Европейский банк решил оградить себя от разбазаривания денег.

В заявлении ряда экологических организаций Украины говорится, что *«проекты, которые финансирует ЕБРР в Украине, не влияют на безопасность «саркофага» и в целом Чернобыльской АЭС. Ангажированные чиновники по сговору между собой поставили подписи под документами, дающими возможность разграбить средства, направляемые мировым сообществом для решения проблемы ЧАЭС»*. Реализацию этих проектов экологи называют «аферой века». Но как стала возможна «афера века» в сфере, которая, казалось бы, на виду у всех?

Владимир Усатенко, в прошлом непосредственный ликвидатор последствий аварии на ЧАЭС, ныне профессионально занимающийся проблемами чернобыльской катастрофы, приводит следующие факты.

По соглашению с Украиной Европейский банк предоставляет финансовую помощь для превращения «саркофага» в экологически безопасный объект. План работ подготовили заместитель директора объекта «Укрытие» Евгений Белоусов и эксперты немецкой компании. Заметьте: в перечень попали мероприятия по «начальному этапу изучения объекта», а ведь все они уже давно проведены! То есть, украинская сторона запланировала повторно взять деньги, а потом представить уже имеющиеся отчеты с обновленными датами.

Несложно предположить варианты прикарманивания денег. Предположим, для реализации определенного проекта создается комиссия специалистов из представителей ЕБРР и объекта «Укрытие». Заказчиком становится администрация объекта. В числе претендентов на выполнение работ выступают подведомственные дирекции «саркофага» строительные организации. Под реализацию проекта ими разрабатывается перечень работ по низким ценам, чтобы «задавить» западных конкурентов. Победив на тендере, «своя» организация выполняет лишь часть работ (вместо дворца возводит пристройку к нему), получая от хозяина-заказчика оплату по прейскуранту. Львиную часть денег администрация переводит на подставные фирмы и организации.



*Объект «Укрытие» требует срочного ремонта, но выделяемые Европой деньги используются не по назначению.*

Еще один путь — включение в план ненужных или фиктивных работ. Этих двух способов вполне достаточно, чтобы безнаказанно прикарманивать многие миллионы. «Отмываются» же они еще легче: отчетами о создании различных офисов, проведении приемов и встреч, получении юридических консультаций от иностранных адвокатских фирм и т.д. Указывают баснословные суммы, хотя расходуется мизер.

Владимир Усатенко утверждает, что период с 1991 по 1995 годы администрация ЧАЭС уже «отмыла» порядка 560 миллионов долларов. Путем представления старых отчетов планировалось отхватить еще почти 300 миллионов долларов. И все это достигается благодаря нагнетанию напряженности вокруг «аварийного объекта», повышенной опасности работ и т.д.

И мировая общественность вряд ли об этом догадывается. *«Не так давно я беседовал с распорядителем счета ядерной безопасности Европейской комиссии господином Боначчио*, — говорит Усатенко. — *Он мне прямо заявил: дескать, ядерная безопасность — это такая штука, в которой никто ничего до конца не смыслит. И если эксперты говорят — надо, мы отвечаем — будет. Уж лучше лишнее дать и перестраховаться, чем брать на себя ответственность перед возможной трагедией. То есть богатая Европа готова переплатить, но ведь не в карман же чиновника! А реально на повышение безопасности ЧАЭС, то есть на мероприятия, которые действительно были направлены на профилактику возможных аварий, было потрачено от силы несколько миллионов долларов. Это громадная научно-практическая и финансовая авантюра, равной которой в Европе, пожалуй, никогда не было».*

*По материалам газеты «Всеукраинские ведомости».*

## Чэмпіёны духу, чэмпіёны танца

**З Японіі вярнуліся спартсмены Барыс Бачкоўскі і Вольга Цяцёркіна, якія сталі чэмпіёнамі свету па спартыўных танцах на інвалідных калясках.**

Першыя ў гісторыі спаборніцтвы танцораў-інвалідаў адбыліся ў японскім горадзе Макахара. У іх удзельнічалі спартсмены з 10 краінаў свету. Б.Бачкоўскі і В.Цяцёркіна выканалі пяць танцаў і занялі першае месца. Ім уручаны залатыя медалі, кубак і граматы.

Барыс Бачкоўскі займаецца гэтым відам спорту ўжо два гады. Ён стаў інвалідам пасля траўмы, атрыманай ім 13 гадоў таму. Вольга Цяцёркіна займаецца на чацвёртым курсе універсітэта культуры на факультэце мастацкай творчасці аддзялення бальнай харэаграфіі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Вясновы ўраган

**Вялікі ўрон у Столінскім і Лунінецкім раёнах прынёс ураган, які праляцеў над Брэсцкай вобласцю на мінулым тыдні.**

Пад напорам стыхіі не ўстаялі гаспадарчыя пабудовы: жывёлагадоўчыя фермы, сенасховішчы, многія з іх засталіся без дахаў. У некаторых вёсках пацярпелі жылыя дамы. Паводле папярэдніх падлікаў, страты перавышаюць 2,5 мільярда рублёў. На шчасце, ахвяраў сярод людзей няма.

*БелаПАН*

## Выйсце для маладых інвалідаў

**Беларускае рэспубліканскае маладзёжнае аб'яднанне *Next Stop — New Life* пачынае ў Мінску праект пад назвай «Выйсце».**

Праект накіраваны на сацыяльна-псіхалагічную рэабілітацыю маладых людзей ва ўзросце ад 16 да 30 гадоў з прыроджанай ці набытай інваліднасцю. Падрыхтоўчыя работы пачаліся ў студзені, і ўжо да пачатку красавіка члены арганізацыі будуць гатовыя прыняць каля 200 маладых людзей, якія маюць патрэбу ў падтрымцы. Спачатку будуць наладжвацца сяброўскія вечарыны, потым пачнецца творчая праца ў групах інвалідаў, прычым гэтыя калектывы паступова станучь інтэграванымі — у іх увальюцца здаровыя маладыя людзі.

Сацыяльна-псіхалагічная рэабілітацыя інвалідаў прадугледжвае паступовы пераход ад індывідуальных формаў працы да клубных. Фінансуюць праект міжнародныя фонды *Counterpart* і Дзіцячы хрысціянскі фонд. У аб'яднанні *Next Stop — New Life*, паведаміла яго сакратар А.Юркоўска, на добраахвотных пачатках працуе вялікая група валанцёраў. Яны хочуць разам з інвалідамі падрыхтаваць праграмы і выступіць з канцэртамі, абмяркоўваецца праект маладзёжнага тэатра.

Падпісаныя пагадненні з уладамі раёнаў Мінска і дамамі інвалідаў аб бясплатным прадастаўленні неабходных памяшканняў для клубнай працы. Аднак дзяржаўныя структуры, як лічыць А.Юркоўска, «з неахвотай дапамагаюць, з імі працаваць цяжка: гарадское ўпраўленне сацыяльнай абароны, напрыклад, два месяцы «шукала» для нас інфармацыю пра інвалідаў».

*БелаПАН*




*Нават у людных месцах інваліды часта адчуваюць сябе вельмі адзінокімі.*

## Даты і лёсы

### *10 сакавіка*

**1972.** У цэху футаралаў Мінскага радыёзавода здарылася буйная аварыя. Загінула больш за 100 чалавек, каля 250 былі паранены.

**1974.** У джунглях філіпінскага вострава Лубан быў знойдзены японскі салдат, які не пакідаў свой пост амаль 30 гадоў. Увесь гэты час ён верыў, што Другая сусветная вайна яшчэ працягваецца.

### *11 сакавіка*

**1566.** Тэрмін вышуку сялянаў, што ўцяклі ад сваіх паноў, быў падоўжаны ў ВКЛ да 10 гадоў.

**1916.** Нарадзіўся брытанскі прэм'ер-міністр (1964-70 і 1974-76 гг.) лейбарыст Гаральд Вільсан. Контрвыведка мела падазрэнні, што Вільсан — агент КГБ і падстроіла шэраг палітычных скандалаў, якія вымусілі яго сысці з палітычнай арэны.

**1945.** Падчас буйнейшага ў гісторыі бомбавага налёту, у якім удзельнічала каля 1.000 англійскіх і амерыканскіх бамбардзіроўшчыкаў, у Германіі быў зруйнаваны гіганцкі збраёвы завод Крупа.

**1972.** На судовым працэсе ў іспанскім г.Пальма-дэ-Маёрка пракурор запатрабаваў 384.912 гадоў турэмнага зняволення для паштальёна Габрыеля Грандаса, які не даставіў на прызначэнні 42.768 лістоў і меў адседзець за кожны з іх па 9 гадоў.

**1985.** Генеральным сакратаром ЦК КПСС быў абраны Міхаіл Гарбачоў — наймаладзейшы з членаў палітбюро.

**1988.** Дзяржаўны банк Англіі спыніў абарачэнне банкнотаў у 1 фунт, упершыню выпушчанай у 1797 г. Англічане не аддалі ў абмен на новыя каля 70 мільёнаў(!) банкнотаў — відаць, пакінулі іх сабе на памяць.

**1990.** Новаабраны Вярхоўны Савет Літвы на чале з В.Ландсбергісам абвесціў пра выхад Літоўскай Рэспублікі з СССР.

**1998.** У адпаведнасці з Канстытуцыяй Чылі былы дыктатар Аўгуста Пiначэт павінен пайсці ў адстаўку з пасады галоўнакамандуючага ўзброенымі сіламі (палітычную ўладу ён перадаў цывільнаму ўраду яшчэ ў 1990 г.). З 1973 па 1990 гг. загінулі ці зніклі без вестак больш за 2.000 палітычных апазіцыянераў рэжыму.

### *12 сакавіка*

**1881.** Нарадзіўся «бацька турэцкай дэмакратыі» Мустафа Кемаль Атацюрк. У 1924 г. ён быў абраны першым прэзідэнтам Турцыі і разгарнуў шырокія рэформы: вызваліў дзяржаўнае жыццё ад ісламскіх догмаў і ўвёў лацінскі алфавіт.

**1913.** Сталіцай Аўстраліі была абвешчаная Канбера. У гэты ж дзень праз 5 гадоў сталіцай Расіі зноў стала Масква.

**1917.** У Расіі адбылася буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя: уладу ў сталіцы захапіў Петраградскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Некалькі гадоў гэты дзень быў дзяржаўным святам.

**1938.** Гітлераўскія войскі акупавалі Аўстрыю — адбыўся г.зв. «аншлюс».

**1940.** Скончылася савецка-фінская вайна, у якой загінулі тысячы беларусаў.

**1942.** У Казані адкрылася першая ў часы вайны сесія АН Беларусі. З дакладамі выступілі: Я.Колас — «Аб рабоце АН БССР у 1941 г.», Я.Купала — «Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя», У.Перцаў — «Фашызм і сярэднявечча».

**1963.** У мястэчку Гайнаўка на Беласточчыне адкрыўся Беларускі музей.

**.988.** У свой 100-гадовы юбілей буйнейшая ў свеце кампанія па здабычы дыяментаў *De Beers* абвесціла пра знаходку дыяманта вагой 599 каратаў (120 г.), які саступае толькі знакамітаму «Кулінану» ў брытанскім каралеўскім скіпетры.

**1988.** У Гомелі нарадзіўся 500-тысячны жыхар.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

*КРЫМІНАЛ*

## П'яныя салдаты

**Віцебскі міжгарнізонны суд прыгаварыў на мінулым тыдні трох вайскоўцаў брыгады мабільных сілаў (былая Віцебская дэсантная дывізія) да вялікіх тэрмінаў пазбаўлення волі.**

20 лістапада мінулага года радавыя Д.Княжышча, В.Серабро і сяржант А.Ясенка ўночы самавольна пакінулі вайсковую частку. У цэнтры Віцебска яны спынілі прыватную таксоўку, проста ў салоне аўтамабіля салдаты пачалі патрабаваць ад вадзіцеля даць ім машыну «пакатацца». Таксоўшчык аказаў супраціўленне, і тады А.Ясенка дастаў нож і нанёс шафёру тры ўдары ў грудзі. Пасля злачынцы моцна збілі таксіста і ўцяклі. Суд прызнаў іх вінаватымі ў здзяйсненні разбойнага нападу і рабаўніцтва і прыгаварыў А.Ясенку да 9 гадоў, Д.Княжышча — да 7 і В.Серабро — да 6 гадоў пазбаўлення волі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Канец магілёўскага Абдулы

***Лідэр буйной магілёўскай злачыннай групоўкі па мянушцы Абдула затрыманы супрацоўнікамі камітэта па арганізаванай злачыннасці.***

Яго банда абклала паборамі буйныя прыватныя фірмы і крамы Магілёва, напрыклад, папулярны ў горадзе універсам «Машэка». Следчыя органы падазраюць, што групоўка Абдулы мела дачыненне да некалькіх забойстваў.

Сам Абдула зусім не хаваўся. Яго добра ведаў персанал самых дарагіх і прэстыжных рэстаранаў Магілёва, дзе Абдула, як правіла, не расплачваўся.

## Няўдзячныя бандыты напалі на памочніка

**У Пінскім раёне трое невядомых напалі на 49-гадовага жыхара Германіі.**

На аўтазапраўцы каля вёскі Пасеніцы да яго падышлі незнаёмыя і папрасілі дапамагчы з рамонтам іхняга «Мерседэса». Ён не адмовіў. Закончыўшы рамонт, іншаземец сеў у свой «Фольксваген» і збіраўся ад'ехаць, але зламыснікі выцягнулі яго з машыны, адзін з іх стрэліў у паветра.

Аднак немец не разгубіўся, вырваўся і кінуўся да дыспетчара АЗС, адкуль і пазваніў у міліцыю. Злачынцы тым часам зніклі на двух аўтамабілях. Асобы ўдзельнікаў нападу ўстанаўліваюцца.

*БелаПАН*

## Забойца папаўся на крадзяжы

**У Расіі затрыманы жыхар Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці, які знаходзіўся ў вышуку пяць гадоў.**

Праваахоўныя органы маюць звесткі, што ён пяць гадоў таму застрэліў сваю жонку. Раней ён ужо адседзеў 12 гадоў за замах на жыццё міліцыянта. Пошукі злачынцы доўгі час не давалі вынікаў, і вось вестка пра яго затрыманне прыйшла з горада Уладзіміра. Злачынца папаўся на дробным крадзяжы.

*БелаПАН*



## Падарункі для музея

**600 гадоў спаўняецца гэтымі днямі аднаму са старадаўніх гарадоў Магілёўскай вобласці — Хоцімску.**

З нагоды знамянальнай даты ў гэтым раённым цэнтры адкрыты гісторыка-краязнаўчы музей, дзе наведвальнікі могуць азнаёміцца з багатай гісторыяй горада. Многія экспанаты трапілі ў музейныя вітрыны як дары жыхароў Хоцімска гарадскому музею, а таксама з куткоў гісторыі роднага краю, арганізаваных у школах раёна.

**А.АЛЕКСАНДРОВІЧ**

*СПОРТ*

## Змена хакейнай эліты

Трэці чэмпіянат Усходнееўрапейскай хакейнай лігі, у якім удзельнічалі 10 камандаў з 4 краінаў (Беларусь, Украіна, Латвія, Літва), завяршыўся перамогай кіеўскага «Сокала». На другім месцы гродзенскі «Нёман», на 3-ім — наваполацкі «Палімір». Мінулагодні чэмпіён — рыжская «Юніорс-Эсаміка» засталася 4-й. Мінскія клубы «Цівалі» і «Юнацтва» замкнулі шасцёрку мацнейшых.

Цяперашні чэмпіянат выгадна адрозніваецца ад мінулага больш высокім узроўнем канкурэнцыі і якасцю хакея. За першынство спаборнічалі адразу тры клубы — «Сокал», «Нёман» і «Палімір». Але і другая тройка таксама дэманстравала часам гульню высокага класа і паднесла лідэрам непрыемныя сюрпрызы. Яшчэ адной вартасцю УЕХЛ з'яўляецца і тое, што ў гэтай лізе, у адзінай з міжнародных хакейных утварэнняў, праводзяцца і юнацкія спаборніцтвы, у якіх гуляюць хакеісты 1980-85 года нараджэння. Прычым у іх удзельнічаюць яшчэ і хлопцы з Польшчы.

У гэтым сезоне кіраўніцтва УЕХЛ вырашыла скапіраваць сістэму розыгрышу Нацыянальнай хакейнай лігі. Услед за чэмпіянатам пачаліся гульні на Кубак УЕХЛ, у якіх павінны былі гуляць 8 камандаў. Аднак з-за адмовы кіеўскіх «Беркута-ПВО» і «Ільдзінкі» «Сокал» і «Нёман» прайшлі ў паўфіналы без гульняў. У двух другіх чвэрцьфіналах «Палімір» двойчы абыграў «Юнацтва», а «Юніорс-Эсаміка» ва ўпартай барацьбе (5:4;3:2) пераадолела супраціўленне «Цівалі». У паўфіналах, якія таксама гуляюцца да дзвюх перамог, сустракаюцца «Сокал» і «Юніорс», «Нёман» і «Палімір».

**СТАРТАВАЛА ФОРМУЛА-1**

У аўстралійскім Херэсе прайшоў першы этап чэмпіянату свету Формула-1. Абсалютную перамогу ў ім атрымалі гоншчыкі каманды «Макларэн». Першым на фінішы быў 29-гадовы фін Ніка Хакінен, другім — шатландзец Дэвід Култхард. Чэмпіён свету-97 канадзец Жак Вільнёў («Уільямс») закончыў гонку толькі пятым, чэмпіён свету-96 англічанін Дэймон Хіл фінішаваў толькі восьмым, двухразовы пераможца сусветных чэмпіянатаў Міхаэль Шумахер з Германіі наогул сышоў з трасы. Выдатна, што Хакінен і Култхард абагналі сваіх канкурэнтаў на цэлы круг. Інтрыгуючы пачатак сезона!

**Сямён ПЛОЦ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1161 Нумар падпісаны ў друк 09.03.98 (15:00) Наклад — 15.490